# ДУБРОЎСКІ НАСТРОЙ № 117

СЬНЕЖАНЬ 2009

НАРОДНЫ БАЯВЫ ЛІСТОК
ДУБРОВА ЧЭРНІНСКАЯ ВОЛАСЬЦЬ ПАРЫЦКІ ПАВЕТ

## ВЫБАРЫ БЕЗ ВЫБАРУ

Праз месяцы тры адбудуцца выбары ў мясцовыя Саветы. У нашых умовах- гэта ў сельскія, раённыя, гарадскія дзе яны шчэ шчэ ій і абласныя.

Моц сельскіх дэпутатаў мы ўбачылі на ўзоры Палескага сельсавета. Сьпярша гадоў пяць шацілкаўскія чыноўнікі не маглі пагадзіцца наконт чалавека на пасаду старшыні, потым яго зусім не прызначалі, урэшце склычылі і сам савет.

Тут зьвернем увагу на адну асаблівасьць савецкай сістэмы: на самую важную, ключавую пасаду старшыні народу не даюць выбіраць чалавека, яго прызначае вышэйшы савет, а дэпутаты фармальна абіраюць. Нават калі яны не выберуць падсунутую ім фігуру, усёроўна зьверху ім пададуць другую і ўрэшце ўсёроўна верхняя ўлада пасадзіць свайго чалавека.

Такі чалавек, вядома ж, будзе падслужваць тым, хто яго паставіў, а не народу, які яго на гэтую пасаду не выбіраў. Гэта негадзяшчая недэмакратычная практыка. У добрых краінах людзі абіраюць г а л а - ву мясцовай улады наўпрост. Шчэ адно гідоцце- гэта адсутнасьць свабоды палітычнай дзейнасьці. Калі няма партый, то німа і палітычных праграм, няведама за што галасаваць, што выбіраць.

Зараз народ абсалютна адхілены ад выбару кандыдатаў. Па-першае, ніхто народ не арганізуе на вылучэнне добрых кандыдатаў, па-другое кандыдатаў падбірае сама ўлада па прынцыпу найменшай шкоды для сябе.

Народ, праўда заганяюць на сходы па вылучэнню кандыдатаў, але там ён нічога не рашае, бо кандыдата фактычна ўжо выбрала сама ўлада.

Самі ж сходы на працы па вылучэнню кандыдатаў абсурдныя па той прычыне, што «калектыў» не зьяўляецца суб"ектам палітыкі. Гэта можа быць або грамадзянін, або палітычная партыя. Такія «кандыдаты» фактычна незаконныя. Заўважце, кандыдат у дэпутаты звычайна адзін. Нават выбару няма.

Па-трэцяе, фармаванне выбарчых камісій адбываецца таксама па той жа схеме і гэтыя прастытутачныя камісіі зацвярджаюць абранне таго, каго ўжо абрала ўлада.. Роля ж народа зводзіцца да «там пасядзеў, там прагаласаваў».

Падабраныя і абраныя такім чынам дэпутаты звычайна ператвараюцца ў ніштo. Ніхто іх не запамінае і не памятае. Гэта зручна і дэпутатам- ніхто приставаць не будзе.

**ЦІ ПАМЯТАЕЦЕ ВЫ,** каб які-небудзь дэпутат даваў справаздачу сваім выбаршчыкам? Яны нават на сельскія сходы не прыходзілі! Гэта зручна сапраўдным трымальнікам улады: без апоры ў народзе дэпутат амаль нічога не значыць, жыць не замінае.

З уласнага вопыту і з сказанага відаць, што на галасаванне ісці не варта.

Выбар і кандыдата і выбарчай камісіі зроблены не вамі, гэта не ваш кандыдат. Толку ад падстаўных дэпутатаў аніякага. Саветы- гэта не орган народнага прадстаўніцтва.

Па закону Саветы- орган дзяржаўнай улады. Ён такі і ёсьць. Таму калі а) кандыдат выстаўлены «працоўным калектывам» б) калі яго не вылучалі грамадзяне ці адказная палітычная партыя
в) калі выбарчая камісія складаецца з калгасных ключніц і аднаго начальніка
то ісці галасаваць - толькі ногі таміць.Лепей зьесьці твікс.

Дарэчы, улада ўжэ парэкамендавала выбраць тых самых дэпутатаў. Яна ўжэ зладзіла выбары. Без нас. Выбары без выбару. Таму выбар адзін- пасядзець дома.

## НАРОДНЫ КРЫЗІС

Спярша прытвараючыся, што аніякага крызісу няма, улада нарэшце прызналася, што ён ёсьць. Гэта як з тымі ведзьмамі, у якіх можна не верыць, але што яны існуюць- гэта факт. Вядома, сусьветны крызіс можна было і празяхаць: мы ўсё жыццё жывом у крызісе. Д"ябал яго ведае, дзе той наш крызіс, дзе прывазны. Самы паганы крызіс у нас пачаўся з сярэдзіны 1994 году, калі на старшага начальніка «дурны, мужык як варона» абраў сабе начальнікам свайго прыгнятальніка, калгаснага цівуна. Вы ведаеце нябожчыка Мікалая Дашкоўскага? Ці тых, што былі пасьля яго? От і ў той негадзяшчы год беглі, аж падалі, выбіраць сабе такога ж «збавіцеля».

З таго часу ў Беларусі можа падаць усё, акрамя цэн. Саме страшнае, гэта калі міласьліва абвяшчаюць пра чарговую падвышку заробкаў і пеньсій. Тут цэны падскокуюць адразу пасьля апошняга націскнога складу ў апошнім слове прыемнай абвесткі. От і зараз фальшывыя рыбныя палачкі ўздрыгнулі на 45%- з 990 да 1500 рублёў за пакуначак, курыныя галёнкі на 20%- з 9.000 да 1100 за кіло. І так усё.

Тая падвышаная пеньсія ці заработная плата калі яна шчэ прыпаўзе. А беларус, які болей за палову даходу траціць на простую ежу пасьпее аддаць гандлю большую частку свайго кашалька для фальшывай падвышкі сваіх пеньсій і заробкаў. Не падвышкі ета, а тупанне на месцы.

## ПРА ЭПІДЭМІЮ

Адны кажуць, што жахлівыя чуткі пра эпідэмію грыпу былі выдуманыя фармацэўтычнымі кампаніямі, каб зарабіць болей, іншыя баяць, што эпідэмія ўсё ж была, але яснасьці ў нашай старонцы на гэты конт няма. У Беларусі, як і ў пранцаватым Савецкім Саюзе, ўсё сакрэт.

Сакрэтнай была і апошняя хваля цяжкага запалення лёгкіх, на якое захварэла ладнага людзей, і ад якой паміралі і пацыенты і лекары.

Цяперашняе грамадства вельмі складанае, надзвычай залежнае ад камунікацыі- хай сабе падача электрыкі, вады, транспартны рух, выхад газет, праграмы радыё ці тэлебачання. Асабліва важна цыркуляванне праўдзівай, нескажонай інфармацыі. Дык вось, дзяржаўныя органы нічога не казалі, а сродкі масавай камунікацыі нічога не пісалі пра такую сур"ёзную пагрозу, як грып ці пнеўманія. (Аказваецца, не толькі зьвесткі пра Чарнобыль сакрэт, пра пнеўманію таксама.) Яны проста падстаўлялі народ пад хваробу, якой можна было б і пазьбегнуць. Калі ж дзьве газеціны-»Народная Воля» і «Наша Ніва» напісалі пра рост хваробы, іх тут жа папярэдзілі пра парушэнне закону, маўляў, няправільныя лічбы даяце, маніце народу. Канешне, калі не пісаць, то і не зманіць. Аказваецца, дзяржава мела запас лекаў на такія выпадкі, але сакрэтна сядзела на іх. От толькі нікому тыя лекі не давала: у нас жа ніякай эпідэміі! Некаторым людзям дзяржаўная эпідэмія хлусьні каштавала жыцця.

## ДОБРАЯ ГАДАВІНА

Мала хто ўспомніў на адну гістарычную падзею, што здарылася на нашых вачох: крах і развал СССР 18 год таму. Такая велічэзная імперыя, такое грознае войска, а развалілася па кутах імперыя як каўляш. Адны пагібаюць па ёй, іншым усёроўна, а маладыя і не ведаюць ужэ што гэта такое.

Бальшавіцка- маскоўская імперыя зжэрла сама сябе. Гіганцкія вайсковыя затраты не мінаюць дарма. І праз дваццаць гадоў, пасьля страшнай вайны, наш беларускі народ жыў бедна, нават вельмі бедна.

Любяць былыя камунякі ды бязграматныя бабы- менее іх, менее штогод- павыць па Савецкім Саюзе. Але што яны страцілі? Чэргі па гарэлку? Чэргі па апельсіны, што прадавалі раз на год? Чэргі ў райвыканкаме на гаўняны рускі аўтамабіль? Крызіс з мылам? З мужчынскімі трусамі? Калі іхнія сківіцы зажавалі банан?

Не памятаюць гэтага ўжэ зморшчаныя ад гадоў і чарніла шызамордыя былыя члены злачыннай банды КПСС.

Нават беларускі дыктатар ужэ рэдка ўспамінае Савецкі Саюз, дзе вышэй за начальніка саўгасу пры скатамагільніку яму б не ўзьняцца. А так, што ні кажы, у хакей гуляець, хоць і з падношаным, але сапраўднымі хакеістамі. І , бач, перамагаець з Божай помаччу.

Супраць гісторыі не папрэш. Дзякуй вам, Барыс, Пятро ды Станіслаў. Помнік вам трэ паставіць у Віскулях. І назваць » На траіх!»

## АПРАТКА ПАДВЯЛА

Расказваюць дазнаныя людзі, што адна дуброўка прыходзіла ў школу наймацца на працу.

Не ўзяла яе дырэктарка. Але як расказваюць далей, не ўзяла з цікавай прычыны: яна пагана апранутая.

Жанчына з сям"ёю, сапраўды, жыве зусім сьціпла. Ды вось такой дзікай для Дубровы прычыны не ўзяць працоўнага на працу, бадай, ніхто з нас не чуў.

Найпершае, што прыходзіць у галаву- гэта чытаны некалі ў школе верш нашага вялікага патрыёта Францішка Багушэвіча

«**Бог не роўна дзеле**».

«Чым то дзеіцца на сьвеце,
Што не роўна дзеле Бог?
Адзін ходзе у саеце, -(*шоўку*)
У золаце з плеч да ног,
А другому каб прыкрыцца
хоць анучай- велькі труд;
весь, як рэшата сьвіціцца,
Адны латы, адзін бруд!»

Словам, некультурная публіка. Затое ў начальніка ці начальніцы, кажа Паэт

«Рукі ў яго, як падушкі,
як кісель, дрыжыць жывот».

От такія залатаносныя плечы, падушкавыя рукі ды кісельныя брухі і зьдзекуюцца з простага народу каторае ўжэ дзесяцілецце. Ну, пры паганцах-бальшавіках то былі залатаносныя грудзі.

Грудзі, плечы… Розьніцы аніякай.

## ФАТАЛЬНАЕ ЗВАЛЬНЕННЕ

З-за нейкага асабістага нутранога канфлікту з работніцай амбулаторыі .Н.Т. непрацягнулі працоўны кантракт. На ўсе спробы дазнацца пра прычыну жанчыне адказвалі ўхіліста. Яна наўпрост звязала сваю праблему з шафёрам амбулаторыі і загадчыкам гаспадаркі В.С, які, па ейных словах, нягледзячы на свае сьціплыя пасады займеў значны ўплыў на самога начальніка аховы шацілкаўскага здароўя -(усе знаюць ягонае бізіклівае імя)- і таму мог уплываць на медычныя кадравыя пытанні ў раёне. (От бачыце, як проста і прымітыўна.) Жанчына зажурылася, але потым паднапружыла памяць і чырканула скаргу на шэрага кардынала і крыўдзіцеля. Ведала яна дастаткова, каб спадар В.С. быў адхілены ад дзейнасьці ў амбулаторыі. (Не капай яму другому, каб не зваліцца самому.)

Зараз удзельнікі канфлікту працуюць у іншых месцах.

У гэтай гісторыі непрыемнае адценне: бачыце, як лёгка і беззаконна па чыста суб"ектыўных прычынах - паганая апратка, асабістая непрыязнасьць- можна не ўзяць чалавека на працу ці пазбавіць яе.

Гэтая гісторыя канчаецца напаўшчасьліва. А можа скончыцца і шчасьлівей, бо, кажуць для сп. В.С. ў амбулаторыі трымаюць і шафёрава і гаспадарскае месца. Значыцца, кадравыя пытанні і ахова шацілкаўскага здароўя застануцца ў надзейных руках.

Якія рукі, такія й вынікі. Дуброўцы маюць прэтэнзіі да якасьці працы свайго медычнага цэнтру.

## НЕЗАДАВАЛЁНАСЬЦЬ

Нeяк стала пагана на працы калгаснаму вартаўніку-жанчыне, але з медустановы не пайшлі да працоўнага - дайце машыну.

Мо й маюць работніцы рацыю- кажын калгасны начальнік мае ў сваім распараджэнні казённую машыну, маглі б падкінуць жанчыну ці ў установу ці з установы.

А вось Іра Анісавец так і не змагла дапрасіцца медработніка выклікаць хуткую дапамогу калі захварэла, неяк сама ўпрасіла тую службу.

Чарсьцьвее дзяржава, чарсьцьвее народ.

Мы ўсе важныя адзін аднаму, і калі дзяржава ператвараецца ў эгаістычную хеўру не трэба думаць, што гэта нармальна, што трэба пераймаць тую плебейскую фанабэрыю.

---

## ПАВУК

З значнай праблемай сутыкаюцца студэнты беларусы. Калі ім пашчасьціла паступіць у ВНУ, то адразу ж узьнікае пытанне: дзе жыць.

Камуністы былі сьвінні, але пра студэнтаў больш-менш дбалі. Студэнты мелі ільготы і магчымасьць калі не ўсе, то большасьць з першага ж году навучання жыць у начлежцы-інтэрнаце. Зараз багата месцаў на вучобу і на жытло аддадзена чужынцам А беларусы наймайце кватэры, плаціце шалёныя грошы. От так беларускі рэжым ставіцца да ўласнага народу: як да другагатункавага. Ідучы на выбары, памятай пра гэтую зьнявагу. Галасуй супраць халуйскага рэжыму!

«У нашай хаце тчэ кросны павук, А вонкі пагнаці не знойдзецца рук. » Я. Купала

## ЗАКОН МАЎЧАННЯ.

Так і не атрымалі адказу на сваю скаргу пра парушэнне сваіх правоў дуброўскія механізатары, хоць дванаццаць разоў мінула па месяцу, тэрміну, адведзенаму начальству на адказ грамадзянам. Хлопцы, апасаючыся ускладненняў, не захацелі далей варушыць начальства. А дарма, бо трэ вучыцца барукацца за свае правы.

Ды не адны хлопцы. Вунь жаліўся, вешаючы абвестку ля манапольскі адзін дубровец, што начальніца райдэпутатаў Галіна Філіповіч яму не адказала, чаму ў Кабульшчыне ўсё-ўсё падпісана па-руску і ні слова па-беларуску, хоць ён двойчы нагадваў ёй пра гэта. Калі ўлада не жадае гаварыць з народам, то што гэта за ўлада і чыя яна? І за яе трэ поўзаць на выбары?

Зрэшты, якія выбары. Зьверху прайшла каманда выбіраць нанава тых жа дэпутатаў. Жуйце тое самае шчэ раз.

## НІКЧЭМНЫЯ КЛОПАТЫ.

Жаліўся Андрэй Захаранка, што ўчастковы стражнік пагражаў пасадзіць яго за тое, што на прыдарожнай хаце час ад часу зьяўляецца надпіс «сдохні расія». Хата гэта нежылая і якое дачыненне мае да яе Андрэй невядома. Хутчэй ніякага. Але разам з стражнікам мусіў шараваць сьцяну, нішчачы ненавісны надпіс. Мо з-за каравух літар. І што ім да той драпежнай Расіі? Яна нам спраку-веку не спрыяла, то хай бы і надпіс вісеў. Есьці ж не просіць...

## ПАЦЯРПЕЛА АД ДЫКТАТУРЫ

Настаўніца-пенсіянерка з Дубровы Мая Барысаўна павезла дзяцей ажно ў Жлобін пакоўзацца ў тамтэйшым ледзяным палацы, збудаваным, як вядома, на загад дыктатара. Дзеці пакоўзаліся без прыгод, але сама жанчына няўдала пакаўзнулася, упала і зламала руку. Зараз яна на бюлетні, але працягвае вучыць дзетак. Пажадаем жанчыне якаснай і хуткай папраўкі.

Ледзяныя палацы- месца павышанага траўматызму. Не лезьце туды.

## ФАЛЬШЫВЫ ІДАЛ

З усіх краін на сьвеце беларусам найдаражэй Расея. (Яна нам сапраўды, дорага абыходзіцца.) Задураны сьлінявымі серыяламі для аднаклеткавых і прапагандовымі навінамі багата хто думае, што Расея - гэта моц. Але... Але па міжнароднай класіфікацыі яна займае вельмі сціплае месца між краін, што толькі пачынаюць разьвівацца. Такімі як Інданезія, Індыя, Бразілія.

А Кітай абагнаў нават Японію, другую ў сьвеце гаспадарку пасьля ЗША. Зараз ягоны ВУП (валавы нутраны прадукт- кошт вырабленых тавараў і аказаных паслуг) дасягнуў амаль 5 трыльёнаў даляраў, пяць тысяч мільярдаў!

То калі дыктатар ліжа пад хвастом у Расеі, то не пад тым хвастом ён ліжа. Нюхаць лепей трэба. І, барані, Божа!- трымацца далей ад Расеі і Кітаю! Пракаўтнуць жыўцом.

## СЛОВА НАЎЗДАГОН

Пайшоў ад нас апошні салдат Другой Сусьветнай вайны Дзям”ян Краўчанка.

Пражыў ён ажно дзевяць дзясяткаў гадоў. Уцякач з чарнобыльскай зоны ён жыў з сынам і нявесткаю, тут схаваў жонку. Дзед Дзям”ян быў сапраўдным беларускім мужыком: ён памайстэрску плёў кашалі, рабіў граблі, майстраваў ладныя саматужкі. Любіў пасядзець на лавачцы ды пагаманіць з мужыкамі. Апошнім часам ён занядужаў і ўжо не выходзіў на двор.

Усім запомнілася ягона высокая спакойная постаць.

Дзяржава, якая «нікога і нічога не забыла» не прыслала і тузіна салдат з халастымі патронамі, каб разьвітацца з адным з тых, на чыім хрыбце яна штогод сьвяткуе чарговае слаўнае «-годдзе вялікай Перамогі».

Бывай, дзед Дзям”ян.

Пайшоў ад нас<br>добры беларус, ветэран<br>Другой Сусьветнай вайны<br>**КРАЎЧАНКА**<br>**Дзям”ян Міхайлаў.**<br>Чэсьць ягонай памяці.<br>Спачуванне дзецям і<br>родным

Пайшла ад нас<br>добрая беларуска, маці і<br>бабуля, гароўніца,<br>ветэран працы<br>**КІРСАНАВА**<br>**Марыя Мікалаева.**<br>Хай ёй пухам будзе родная<br>зямля.